Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Цана 15 гр.

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Татарская вул. 15-1

Рэдакцыя прыймае: ад 8—10 і ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паўгоду 1,50 злот. квартальна 1 зл.

№ 4 (5) Вільня, 29 лютага 1936 г. Год I

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ

### ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ і БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ ГАСПАДАРКІ і КУЛЬТУРЫ ў СПРАВЕ ДАМАГАНЬНЯ РОДНАЕ ШКОЛЫ.

Дзеля заняпаду культурна-асьветнай працы ў нашым краі, калі шырыцца цемра ў масах Беларускага Народу і пагражае штораз большая небясьпека анальфабэтызму для маладога пакаленьня з прычыны нястачы асьветы ў роднай беларускай мове — беларускія культурна-асьветныя арганізацыі: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы, прыступаюць у гэтым 1936 годзе да акцыі дамаганьня беларускіх школаў на землях Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад уладай Польшчы.

Мы, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы, злучаныя адзінай воляй і жаданьнем нясьці сьвятло навукі беларускім дзецям у роднай мове, будзем разам з шырокімі беларускімі народнымі масамі супольна дамагацца роднай беларускай школы.

У нашай акцыі мы лічым на падтрыманьне ўсей беларускай інтэлігэнцыі, якая душой цесна зьвязана з беларускімі народнымі масамі.

Мы лічым на салідарную дапамогу ў нашай працы з боку ўсіх беларускіх арганізацыяў, а такжа і тых народаў, якія знаходзяцца ў падобным да нас беларусаў палажэньні і таксама імкнуцца пашырыць асьвету ў сваей роднай мове.

Мы лічым такжа на маральнае падтрыманьне з боку праўдзіва дэмократычных кругоў польскага грамадзянства, кругоў навукі і літэратуры, якія помняць гады свайго змаганьня за родную школу, за асьвету ў роднай мове.

Вы верым, што Беларускі Народ, апіраючыся на прыродным праве да асьветы ў роднай мове, а такжа на існуючых школьных законах, выкажа сваю цьвердую волю ў справе дамаганьня роднае школы і ў працягу гэтага 1936 году падасьць школьным уладам дэкларацыі за сваю родную беларускую школу.

Вільня 26 лютага 1936 году.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ

## З беларускага жыцьця.

— Віленскі Акружны Суд на паседжаньні з дня 18-II б. г. зьняў канфіскату № 1 (2) часопісі „Наша Воля", сканфіскаванай за рэпортаж „З жыцьця вёскі".

— МІХАСЬ ВАСІЛЁК, наш беларускі поэт недаўна адведаў Вільню і задэкляраваў нам сваё сталае супрацоўніцтва.

— „БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ" № 1-2 за студзень — люты, месячнік зялярства і пчалярства выйшаў з друку. Уражаньне робіць саліднае, як па свайму зьместу, так і вонкавым выглядам. Мае аддзелы: пчалярства, зелярства, шаўкаўніцтва, садоўніцтва і агародніцтва. У гэтым нумару даецца ілюстрацыя чаго раней ня было.

— КІРАЎНІЦТВА ЗАВОЧНЫХ КУРСАЎ Цэнтральнага гуртка ТВШ распачало высылку лекцыяў сваім курсантам.

— ВЕЧАР ПАЭЗІІ. Студэнцкая моладзь мае зладзіць у палове сакавіка вечар маладых беларускіх поэтаў Заходняй Беларусі, на якім самі аўтары прачытаюць свае новыя творы. Апрача рэфэратаў аб іхняй творчасьці і дэклямацыі будзе выступленьне беларускага хору з песьнямі на словы нашых паэтаў.

— АГУЛЬНЫ СХОД СТУДЭНЦКАГА САЮЗУ. Дня 23-II у галоўным гмаху У.С.Б. адбыўся гадавы сход сяброў Б.С.С. на парадку дня было: адыход і справаздача старога ураду і выбары новага. Па справаздачы папярэдняга старшыні, Шчорса, які аглядаючы гадавую дзейнасьць саюзу і актыўнасьць сяброў, крытычна аднёсся да іхняй працы, высказываючы недахопы агулу сяброў, іх павольнасьць у выкананьні праграмы Б.С.С., а прадусім у адносінах да найгалаўнейшага заданьня Б.С.С.—культурна-асьветнай працы сярод бел. сял. масаў. Пасьля справаздачы рэвізыйнай камісьці адбылася рэчовая дыскусыя над папярэднімі недахопамі, а такжа быў накрэсьляны плян для далейшай дзейнасьці саюзу, у якім ўсе прамоўцы падкрэсьлялі, як абавязак паасобных сяброў так і ўсяго саюзу, нясьці культурнаасьветную працу у бел. вёску, а разам з гэтым, паглыбляць нацыянальную сьведамасьць сярод сялян.

Склад новага ураду Б.С.С.: старшыня—Шчорс, сябры: Сухая, Казак, Канцэлярчык.

З свайго боку жадаем новаму ураду пасьпеху ў яго працы і зьдзейсьненя найсьвяцейшых ідэалаў бел. студэнскай моладзі!

## Яшчэ да абновы Х. Д.

„Пакуль што зрабілі мы тое, што зрабіць маглі і мусілі для добра беларускага народу ў пару ашалелага фашызму й дагараючага капіталізму". Гэтымі славамі „Б. Крыніца" у № 7 канчае сваю стацьцю — „Прычына нашай абновы".

Бяручы за ісходны пункт сваіх разважаньняў гэты вывад пастараемся бліжэй падыйсьці і да прычынаў абновы і параўнаньня старой і новай праграмы — БХД і БНА.

Першай прычынай абнаўленьня, паводле „Крыніцы", было жаданьне пазбавіць каталіцкага арц. Ялбжыкоўскага мяшацца у беларускія справы і зноў жа „не драбіць беларускую душу" незалежна — хрысьціянскай працай. У гэтым „Крыніца", па нашаму, далёка разыходзіцца з сапраўдвасьцяй. Усякі клерыкалізм, у тым ліку і каталіцкі, глыбака варожы народным масам па сваей сутнасьці, бо бароніць інтарэсы сільных і багатых. Што клерыкалізм ніколі ня служыў народным масам, пацьвярджае і „Крыніца", прызнаючы, што касьцёл і царква выкарыстаны, як раз проці нас, капіталізмам і фашызмам. Натуральна гэтае „выкарыстаньне" балюча адчувае на сабе наш народ, які даўно выдаў свой прыгавор клерыкалізму. Вось гэтая прычына, а не Ялбжыкоўскі, змусіла БХД затушаваць свой клерыкальны шыльд. Другая прычына— брак арганізаванай беларускай ідэолёгіі па за нацамі і ХД. Слушна, у ХД была свая яскравая ідэолёгія, свая моцна закансэрваваная арганізацыя, якая аднак пад напорам жыцьця змушана перастроіцца на іншых асновах ужо без буквы Х. Знача выразіцелем і насіцелем праўдзівай ідэолёгіі зьяўляецца працоўны народ, а выявіцелем яе на вонкі—арганізацыя, пабудаваная на гэтай аснове. Тое, што ў нашых умовах нельга стварыць такой арганізацыі, абхопленай статутам, яшчэ не азначае, што няма другой ідэолёгіі, як хадэцкая або нацаўская. Трэцяя прычына—ўжо як вывад з першых двух — сабіраньне беларускага грамадзянства. Сабіраць можна каля такіх ідэяў і лёзунгаў праграмы, якія суадказваюць імкненьням шэрэйшых слаёў працоўнага народа. Тут як раз падыходзім да самага істотнага—пэраўнэньня старой і новай праграмы. Той хто верыць, што можна знайсьці выхад с сучаснага палажэньня ў рамках капіталістычнага ладу, астаецца па-за навесам шырокага грамадзкага жыцьця. Яму астаецца выбар або ісьці з гэтым жыцьцём, або апублікаваць сваё поўнае банкроцтва. У гэтых агульных рамках абнова БХД зьяўляецца нічым іншым, як спробай утрымацца на паверхні... Вонкавы радыкалізм, ад якога год таму назад так старанна ухіляліся тыя самыя дзеячы, цяпер прабіваецца на кожнай старонцы „Б. Кр." Але з-за гэтай радыкальнай заслоны ўсё-ж яшчэ выглядае праўдзівае рэакцыйнае абліччa старой хадэцыі.

Праграма БХД імкнулася да незалежнай дэмакратычнай распублікі,— БНА імкнецца „да самастойнасьці народу, аб'еднанага у незалежную дзяржаву". Але дзяржавай такой можа быць і Манархія і Распубліка і Саветы. Дык за якую форму дзяржаўнага ладу БНА, зразумець нельга. Каб адсланіць крыху твар гэтае дзяржавы, далей гаворыцца, што БНА імкнецца „да таго, каб быў створаны такі грамадзкі лад, які, не дапускаючы да эксплёатацыі адных другімі, заспакойваў-бы палітычна—грамадзкія, культурныя і эканамічныя патрэбы грамадзян". І фашызм і сацыялізм, калі даць яму ўладу ў гэтай дзяржаве, пад такой праграмай падпішацца адразу.

ХД ішла да мэты „дарогай арганізаваньня, усьведамленьня і ўзгадаваньня бел. сялянства, работнікаў і інтэлігэнцыі на грунце хрысьціянска-дэмакратычных ідэалаў і бел. народнай культуры", а БНА — „на грунце грамадзкай роўнасьці, справядлівасьці і бел. народнай культуры". Але, што разумее БНА пад роўнасьцю і справядлівасьцю, праграма маўчыць. Затое ў далейшых сваіх пунктах праграма ў поўнай супярэчнасьці з паняцьцямі роўнасьці і справядлівасьці. Пачаткавая агульная асьвета абавязкавая для усіх за кошт дзяржавы або самаўрадаў. Здабыць асьвету сярэднюю і вышэйшую дапамагае дзяржава і самаўрады, вызначаючы стыпэндыі дзецям сялян і работнікаў? Ці гэта мае быць стыпэндыя для ўсіх дзяцей сялян і работнікаў? А што с тымі, якія не дастануць стыпэндыі? Калі сярэдняя і вышэйшая асьвета даступна за кошт дзяржавы для усіх дзяцей сялян і работнікаў, тады пашто стыпэндыі, а калі вызначаецца толькі стыпэндыя, то „роўнасьць", „справядлівасьць" тады не для усіх. З праграмы выкінены пункт аб прымусовым навучаньні рэлігіі, але пастаўлена такая зацемка, што „рэлігійныя установы ў сваёй рэлігійнай працы, як у сьвятынях, школах і інш. карыстаюцца роднай мовай сваіх верных". Знача, навучаньне рэлігіі ў школах усё ж пакідаецца.

У справе прыватнай ўласнасьці, можна сказаць найбольш падставовай для грамадзкай структуры, праграма БНА, па нашаму, зьяўляецца больш рэакцыйнай чым у ХД. Там хоць фармальна істнавала лёгкая зацемка аб змаганьні з абшарніцтвам і капіталізмам, тут справа урэгуляваньня ўласнасьці так абстаўлена законам, каб не была шкоднай агульна-грамадзкаму дабру. Як гэта пагадзіць з паняцьцем справядлівасьці? Вось, напрыклад, віленскія абшарнікі да хрыпаты крычаць, што Польшча згіне, калі зачапіць маёнткі на Крэсах і надзяліць зямлёю беззямельных і малазямельных. Па іхняму паняцьцю агульна-грамадзкаму дабру найбольшая карысьць, калі зямлёю карыстаюцца абшарнікі. Мусіць для гэтага „агульнага дабра" дзяржава па праграме БНА праводзіць разрахунак з уласьнікамі за землю. Аб гэтым нават праграма хадэцыі маўчала. Для работнікаў праграма дае 8 часовы рабочы дзень пад той час, калі ува ўсім сьвеце работнікі дамагаюцца 6 гадзіннага дня працы і многа дзе ў якіх дзяржавах ужо прыняты 7-мі а ў некаторых галінах промыслу і 6-ці гадзінны дзень працы. Далей прадбачыцца права забастовак і колектыўнай умовы. З кім? Натуральна з капіталістамі, якія, як і пры ўсякім іншым капіталістычным ладзе, будуць толькі эксплаятаваць работніцкія масы. Гэта-ж тая самая дыктатура капіталізму. А дзе-ж барацьба з дыктартурай, аб якой гаворыцца на пачатку праграмы? Дзе справядлівасьць, якая на дапускае эксплёатацыі адных другімі? Жыцьцё беларускага народу не зьмесьціцца ў цесных рамках гэтае праграмы. Шырокія масы і надалей пазастануцца па-за гэтымі рамкамі. І нічога дзіўнага, што студэнцкая моладзь пад час дыскусыі над гэтай праграмай, заняла нэгатыўнае становішча, прыпісваючы ёй толькі архівальнае значэньне.

Прызнаўшы, што ў сучасную пару „ашалелы фашызм" і „дагараючы капіталізм" на дадуць народу выхаду з тупіка, прыдзецца БНА рабіць далейшыя вывады і ўносіць новыя папраўкі ў сваю праграму, згодна з ідэолёгіяй, якая адказвала-б імкненьням шырокіх народных масаў.

# З фронту афрыканскае вайны.

На паўночным фронце ў апошнія тыдні апэрацыі адбываліся ў ваколіцах Тэмбіену. Італьянцы добра ўзмацавалі свае пазыцыі ў гэтым райёне, дзеля чаго атакі на іх былі адбіты. Гэта змусіла абісынцаў зьмяніць тактыку. Рашыліся яны дзеля гэтага спрабаваць абкружыць Макальле, каб адрэзаўшы яго ад тылу, пазбавіць ўзбраеньня і падвозу харчоў і гэтым замарыць.

У выніку шматразовых сутычак з войскам раса Кассы ў ваколіцах Тэмбіену італьянцам удалося зрабіць яго няшкодным. Пасьля гэтага галоўныя сілы былі кінутыя на войска раса Мулугета, які сабраў вялікшую армію на поўдзень ад Макальле. У склад яго арміі ўваходзілі найлепшыя палкі і гвардыя негуса.

Італьянцы перашоўшы ў наступленьне 11 лютага зблізіліся да арміі Мулугета і ўступілі ў бой, стараючыся абкружыць абісынцаў. Рас Мулугет, каб прарваць ахопліваючае яго кальцо, перахадзіў у контратакі, але бяз скуткаў. 15 лютага італьянцы блізка падайшлі да абісінскіх пазыцыяў. Пачаўся рашучы штурм. Войска раса, а асабліва гвардыя негуса аказывалі шалёны адпор, але дзякуючы перавазе тэхнікі італьянцаў, былі зломлены. Страты абісынцаў былі вялізарныя. На схілах гор Амба Арадам, на якіх былі пазыцыі абісынцаў, пазастаўлена больш чым 5000 трупаў. К вечару абісынцы пачалі адходзіць, але манэвр няўдаўся і адыход ператварыўся ў бязладнае бегства.. Італьянцам дасталося шмат рознай вайсковай маемасьці, а таксама і абісінскія знамёны,

Гэтая пабеда італьянцаў, хоць і ня мае вялікага стратэгічнага значэньня, але мае вялікае маральнае і палітычнае значэньне. Пасьля двух вялікіх паражэньяў — на паўдзёным фронце пад Нэгельлі, а зараз на паўночным пад Амба Арадам дух абісынскай арміі можа зусім падупасьці.

Ня гледзячы на гэта не прыходзіцца аднак разьлічываць на хуткае заканчэньне вайны. Тэрыторыяльныя здабыткі італьянцаў у гетых бітвах не вялікія, да Аддіс Абэбы, яшчэ далёка і прыгэтым дарога да яе ідзе праз такія самыя горы, як і на паўночным фронце: Усё будзе залежаць ад таго, як негусу ўдасца ўтрымаць у краі парадак, і арганізаваць нанова яго абарону.

# Міжнародны агляд.

## Сытуацыя ўва Францыі.

Першы пэрыяд барацьбы „Народнага фронту“ з нарастаючым ува Францыі фашыстоўскім рухам, закончыўся пастановаю парлямэнту аб ліквідацыі фашыстоўскіх ліг і адстаўкаю ўраду Лявала. Новаму ураду Сарро вельмі хутка прышлося прыступіць да правядзеньня гэтае пастановы у жыцьцё.

14 лютага падчас хаўтур знанага рэакцыйнага гісторыка Бэнвільля група фашыстоўскай моладзі напала на праяждж ўшага у самаходзе па вадыра французкіх сацыялістаў дэпутата Лявона Блюма, выбіла вокны ў самаходзе і моцна пабіла і пакалечыла як самаго Блюма, брыкаючы яго ужо паваленага нагамі, а таксама пабіла і ехаўшую з ім разам сац. Моннэт.

У зьвязку з гэтым урад выдаў загад аб ліквідацыі фашыстоўскай групы „Акціон Франсэ.“, якую западозрано ў арганізацыі нападу. Падчас рэвізыі у памешканьні гэтае партыі знойдзены капялюш і гальштук Блюма. На падставе фільмовай фатаграфіі, зробленай аматарам, асобы, якія бралі удзел ў нападзе, апазнаны і арыштаваны. Уся французская прэса, апрача правай, рашуча ганіць напад і дамагаецца, каб урад не затрымліваўся на поўдарозе і забяспечыў грамадзянству свабоду погляdaў і асабістую бяспечнасьць.

У нядзелю, 16 лютага „Народны фронт“ ладзіў вялікую маніфэстацыю пратэсту, у якой брала ўдзел больш як 100 тысячаў асоб. На чале паходу йшлі левыя дэпутаты і гарадскія радныя, удзельнікі вялікай вайны, інваліды і 300 антыфашыстоўскіх адвакатаў. Маніфэстанты пялі інтэрнацыянал і ўзнасілі антыфашыстоўскія, прыхільныя да саветаў воклікі. Парадак падтрымлівалі, як урадавыя дзейнікі, так і міліцыя народнага фронту. Да паважных сутычак з правымі групамі не даходзіла.

Адначасна з ліквідацыяй „Акціон Франсэ“ урад выдаў загад ліквідацыі і на правінцыі 3-х лігаў, зьвязаных з гэтай партыяй.

Судовае сьледства аб нападзе на дэп. Блюма пасоўваецца наперад. Адбылося некалькі рэвізыяў у сяброў фашыстоўскіх і манархістычных арганізацыяў. У некаторых знойдзена нават аружжа.

Наогул сытуацыя стварылася досыць напружаная, але, як падаюць газэты, небясьпекаю ураду не пагражае.

## Перамога Народнага фронту ў Гішпаніі.

У нядзелю 16 лютага ў Гішпаніі адбыліся выбары ў картэзы (парлямэнт). Перамаглі левыя партыя, якія аб'ядналіся ў г. зв. „народны фронт“, здабыўшы абсалютную большасьць мандатаў.

Перамога гэтая выклікала ўва ўсёй стране вялікую радасьць. На другі дзень пасьля выбараў па вуліцам сталіцы прайшлі вялікія маніфэстацыі з дамаганьнем перадачы ўраду сацыялістам і агульнай амнэстыі для палітычных вязьняў. Урад абвясьціў асаднае палажэньне, аднак лічучыся з фактам, што перамагла лявіца, выдаў загад аб звальненьні палітычных вязьняў. Прам'ер Валядарэс, пасьля аканчальнага высьвятленьня вынікаў выбараў, злажыў прашэньне аб адстаўцы ўсяго ураду. Місыю стварэньня новага ўраду прэзыдэнт Замора даверыў б. Прам'еру Азану, павадыру рэспубліканскай лявіцы. Ува ўсім краі адбываюцца вялікія маніфэстацыі левых партыяў і рабочых. Падпісаны прэзыдэнтам дэкрэт аб амністыі абымае між іншымі усіх асуджаных за рэвалюцыю 1934 году і аўтанамічны ўрад Каталёніі. Звольнены з турмы б. прэзыдэнт аўтанамічнага каталёньскага ўраду Компаныс зара-жа склікаў паседжаньне сяброў быўшага ўраду. Пасьля нарады сяброў узноўленага ўраду, Компаныс выяжджае у Мадрыд да прам'ера Азаны.

Правыя палітычныя дзеячы масава пакідаюць Гішпанію.

## Японія і Амэрыка.

Старшыня камісіі заграfactory справаў сэнату Злуч. Штат. сэнатар Піттман, выступіў у сэнаце з вялікаю прамоваю, ў якой закрануў справу Японскай палітыкі ў Азіі. Паміж іншым сэн. Піттман сказаў, што „Японія мае замер зачыніць дзьверы у Кітай перэд Амэрыкай, нават калі-б выкананьне гэтага вымагала вайны“. Прамоўца прыводзіць словы японскага адмірала Таканашы, які заявіў, што калі Злуч. Штаты не спыняць сваей марской палітыкі, Японія будзе змушаная пашырыць дзейнасьць сваей флёты на Новую Гвінею, Цэлебэс і Борнео. Піттман лічыць, што ў гісторыі сучаснай дыплямацыі яшчэ ня было гэтакага недыпляматычнага і грубіянскага выступленьня асобы займаючай высокае становішча.

У зьвязку з гэтым, прамоўца дамагаецца павялічэньня марской і паветранай флёты і узмацаваньня марскіх базаў на Вялікім акіяне.

Выступленьне сэн. Пітмана сьведчыць аб гатоўнасьці Злуч. Штатаў выступіць збройна ў абарону „сваіх правоў“ у Кітаі, дзеля чаго магчымым зьяўляецца, што ўвага японскіх вайсковых і палітычных кругоў зьвернена будзе галоўным чынам на захад, г. зн. у кірунку СССР. Напрамак далейшай японскай экспансыі ў Азіі залежаць будзе аднак ад міжнароднай, а галоўным чынам эўрапэйскай палітычнай сытуацыі.

## На Далёкім Усходзе.

Сытуацыя на Далёкім Усходзе ў пачатку бягучага месяцу была вельмі напружаная. Сутычкі на Манджурска-мангольскай граніцы прымалі размеры праўдзівых баёў і пагражалі распачацьцем афіцыяльнай вайны. Пераход японска-манджурскім вайсковым атрадам манджурска-савецкай граніцы гаварыў шмат аб чым.

Апошні тыдзень напружанасьць на граніцах зьменшылася. Адказныя японскія дзеячы пачалі выказывацца, што як Японіі, так і СССР трэба ўрэгуляваць свае суадносіны. Зьявілася нават зацемка аб тым, што Японія быццам мае замер запрапанаваць СССР падпісаньне умовы аб ненападзеньні. Характэрным зьяўляецца яшчэ той факт, што Японія, якая раней аткрыта ня выступала, а высоўвала ўвесь час „незалежнае Манджу-Го“, зараз вядзе гутаркі ад свойго імя.

Гэты дыплёматычны манэвр Японіі, сьведчыць аб тым, што ей патрэбны час і сілы, каб асвоіцца і замацавацца ў Кітаі. Нельга не згадзіцца і з тым, што на напрамак японскай палітыкі мае ўплыў узмацаваньне становішча СССР. у Эўропе.

# З усяго сьвету.

## Дзе заўважваецца ажыўленьне прамысловасьці.

Ажыўленьне ў прамысловасьці, аб якім хваляцца некаторыя краіны, заўважваецца галоўным чынам у вайсковай прамысловасьці. Прадпрыемства Шнэйдар-Крэзо, Круппа, Шкоды, Армстронга і інш., якія вырабляюць аружжа сьмерці, працуюць вельмі добра, і даюць прадпрыемцам вялізарныя зыскі. За імі ідуць і варштаты лётніцкай прамысловасьці. У 1935 годзе англійская прамысловасьць вывязла заграніцу самалётаў, матораў і т. п. на 40% больш чым у папярэднім годзе, агулам на суму каля 18 мільёнаў злотых. Гандляры сьмерці зарабляюць.

## Сутычкі з безработнымі ў Чэхаславаччыне.

У паўночнай Чэхіі апошнімі часамі было некалькі вострых сутычак паліцыі з безработнымі, якім улады забаранілі зборы. Паліцыя ў некаторых выпадках стасавала аружжа. Ёсьць некалькі дзесяткаў раненых і шмат арыштаваных.

## Як гаспадарыць у Швецыі сацыялістычны урад.

Чэскі часапіс „Нова свобода“ піша: „Яшчэ 3 гады назад у Швэцыі, якая лічыць 6½ мільёнаў жыхараў, было 300 тысячаў безработных. Сяньня у Швэцыі безрабоцьця зусім няма. Урад зьліквідаваў безрабоцьце і земляробскі крызыс і высока падняў усю гаспадарку краю. Плян ураду палягаў на тым, каб не дапусьціць да абніжэньня пакупной здольнасьці спажыўцаоў, а галоўным чынам работнікаў і сялян. Заработкі адных і другіх ня толькі затрыманы на вышыні гадоў добрай каньюнктуры, але нават і падвысіліся. Дзяржаўны буджэт, пры даходзе ў 1176 мільёнаў карон, прадбачыць надвышку ў 136 мільёнаў, якой 20 мільёнаў ўрад мае замер выкарыстаць на абніжэньне падакткаў, а рэшту на работы інвэстцыйныя (будаўляныя). Падаючы гэтую зацемку „Работнік“ дадае: „Так „экспэрымэнтуе“ для карысьці працоўных мас і ўсяго краю соцыялістычны ўрад Швэцыі ў той час, як у іншых дзяржавах баяцца гэтых „экспэрымэнтаў“ і іх „выклінаюць“. А вынікі вядомыя“.

## „Бяз масла можня жыць — без арматаў ніколі“.

16 студзеня г. г. міністр Гэбэльс на партыйным сходзе акругі Берлін-Брандэнбург пахваліўся, што ўрад Нямеччыны забяспечыў адпаведную колькасьць заграпічнай валюты на закуп сырызны, патребнай дзеля узбраеньня. Гэтыя запасы здабыты коштам абніжэньня жыцьцёвай роўні шырокіх масаў насельніцтва, галоўным чынам праз устрыманьне прывозу тлушчаў. Арматы і самалёты дзеля ваяўнічых плянаў Гітлера відаць больш патрэбныя, чым тлушчы для працоўных масаў Нямеччыны.

(„Папросту“).

## Закон аб нэйтралітэце Злуч. Штатаў Паўн. Амэрыкі.

Законадаўчыя установы Злуч. Штатаў прынялі закон аб нэйтралітэце, паводле якога забараняецца да 1 траўня 1937 г. прадаваць ў ваюючыя дзяржавы аружжа. Вынятак зроблены для дзяржаў Паўднёвае Амэрыкі, калі на іх зробіць напад неамэрыканская дзяржава.

## Аграмадныя палітычныя працэсы ў Нямеччыне.

У гітлероўскай Нямеччыне апошнія часы адбываюцца сэрыі масавых палітычных працэсаў. У канцы мінулага году у Гамбургу адбылося 3 працэсы супроць сацыялістаў. Зараз там-жа адбываецца працэс 270 камуністаў. Прэса падае звычайна толька прысуды, а ў судовую салю доступ зачынены. Зараз у Вюпэрталю адбываецца найвялікшы з усіх працэсаў, бо абвінавачаных ёсць 628 асобаў.

Вюпэрталь гэта фабрычны цэнтр ткацкай прамысловасьці, дзе зараз пануе безрабоцьце і вялікая нужда. Нелегальныя сацыялістычныя і камуністычныя рабочыя арганізацыі істнуюць там ад самага пачатку панаваньня гітлерызма. Вюпэрталь заўсёды быў цэнтрам як палітычнага, так і прафэсыянальнага руху. Каб ліквідаваць рух, гітлероўскі ўрад правёў масавыя арышты. Арэштаваных білі і катавалі з дамаганьнем, каб выдавалі сваіх супольнікаў. Ў выніку паўстаў вялікі судовы працэс, на якім ужо шмат абвінавачаных засуджана на высокія кары — да 15 гадоў турмы. У салю паседжаньня суду ня пускаюць нікога, нават сваякоў абвінавачаных.

## У Баўгарыі.

Барацьба супроць дыктатуры за дэмакратычны лад ахоплівае новыя дзяржавы. У першай палове лютага ў Сафіі (сталіца Баўгарыі) адбылася нарада прадстаўнікоў партый „Дэмакратычны Зговар“, соцыялістаў і лібэралаў, на якой было пастаноўлена звярнуцца да караля з жаданьнем узнаўленьня канстытуцыі і стварэньня ўраду з прадстаўнікоў палітычных партыяў.

## Камітэт экспэртаў у справе нафтавых санкцый.

Камітэт экспэртаў у справе забароны ўвозу ў Італію нафты і яе прадуктаў пастанавіў, што забарона гэтая толькі тады будзе мець значэньне, калі Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі абмяжуюць увоз нафты ў Італію да разьмераў, у якіх яна ўвазілася перад распачацьцем вайны з Абісініяй. Камітэт 18, які мае вырашыць аканчальна гэтую справу зьбярэцца ня раньш, як у сакавіку, калі будзе ужо вядомае становішча Злуч. Штатаў. Калі-б Злуч. Штаты не далучыліся да гэтае акцыі, дык магчымым быў-бы такі выхад, што дзяржавы Лігі Народаў, якія праводзілі-б санкцыі забавязаліся-б купляць нафту ў дзяржавах, якія дабываюць нафту, як напр. у СССР, Польшчы, Румыніі і іншых і далучыліся-б да санкцыяў. Гэткім чынам Злуаныя Штаты страцілі-б шмат сваіх дасюлешніх купцоў.

Аканчальная пастанова камітэту „18“ будзе залежаць аднак ад таго, якое становішча займе Англія і Францыя ў адносінах да Італіі ў зьвязку з агульнай міжнароднай сытуацыяй.

## Дадатковы вайсковы крэдыт у Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі.

Амэрыканскі парлямэнт большасьцяй 204 галосоў супроць 36 ухваліў дадатковы крэдыт на войска ў суме 545.236.000 доляраў.

**ДУМКІ І ІМКНЕНЬНІ КОЖНАГА НАРОДУ АДБІВАЮЦЦА Ў ПРЭСЕ. ДРУКАВАНАЕ СЛОВА КАЖА УСЯМУ СЬВЕТУ АБ ІСНАВАНЬНІ НАРОДУ. ДЗЕЛЯ ТАГО ПАДТРЫМАНЬНЕ СВАЕЙ ПРЭСЫ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ГРАМАДЗКІМ АБАВЯЗКАМ КОЖНАГА БЕЛАРУСА.**

# Там, дзе вазёры

(Летні нарыс з над Нарачы).

Нарач.

Перад усходам сонца яно шэрае. Днём ад Мястра лягуць зялёныя цені, і пагоніць вецер хвалі на пяшчаны бераг — і зялёныя і сінія, як неба, — і белыя, як барозны зямлі, ўбеленыя пенай — першым сьнегам.

Нарач.. Дарога ляніва падымаецца на ўзгорак. Далёка відаць цёмная вузкая паласа лесу, белыя муры касьцёлу, панскі двор; бліжэй — узгоркі, поле з лат пяску і гліны, парэзанае глыбокімі акопамі, схронамі, усеянае магіламі сусьветнае вайны.

Часам тарчыць з зямлі кавалак іржавага калючага дроту, жалеза-бэтонныя пліты, скрышаных часам і снарадамі траншэй..

— „О — го — го“!.. песьні ўтораць удары жалезных кліноў, кірак і лапат. Чалавек дваццаць каменьшчыкаў гатуюць матар'ял на дарогу.

Вецер калышыць жоўтыя напалавіну з гірсай каласы жыта, цёмназялёнае калосьсе ячменю.

— „О — го — го — о“!... Стук, скрып калёс, галасы, крык спуджаных кагарак і неспакойны шум Нарачы.

— „Тут шэсьць месяцаў... Зьмяніў лапці на дзеравянкі... Заработак. . — гавора адзін з каменьшчыкаў.

— Спытайся, як на кабыльніцкім тракце...

— Прыехаў учора адзін з гораду. Мы — кажа — апішам вашa жыцьце. А сам у рукавічках. Цадавіўся-б ты гэткім жыцьцём. Ведаем і без цябе што за жыцьцё, — гаворыць рыжы, шыракаплечы занарачанскі рыбак. Ізноў песьня. Парваныя ветрам галасы. Шум калосься, кагаркі, Нарач...

Ёсьць два берагі.

Адзін — гарыць на сонцы, звоніць медными струнамі соснаў, а ў цяні маляўніча раскінуліся дачныя домікі, рэстараны; ўюцца між олянцовых кустоў дарожкі, старанна высыпаныя жоўтым пяском.

Другі бераг: цягнуцца вузкія шнуры; ляжыш — галава на аднэй мяжы, лапці на другой. У безпарадку каля дарогі зьбіліся сялянскія хаткі, быццам сабраліся кудысь ісьці.

Першы бераг усеяны людзьмі вясёлымі: банкір, дырэктар банку, рэдактар якойсь клерыкальнай газэты, палкоўнік... Усе з сваімі семьямі.

Ляжаць на гарачым пяску чырвоныя ад сонца тлустыя ногі, рукі, галовы.

— Чуюся, як на моры, толькі тут шмат таней, як на Рывьеры, або ў Гдыні, — квокчыць разваліўшыся на пяску жонка дырэктара жалезнага трэсту. Глядзіць праз лярнэтку на возера, на бераг, на далёкія каякі, парусы і з задаваленьнем пераварочваецца і падстаўляе пад сонца другі меньш апалены бок.

Другі бераг — бераг чорны, як жыцьцё, як народ. Кожны дзень зьбіраюцца рыбакі: народ мазольны, абарваны, галодны.

Кожны дзень — ці мароз, ці вецер — арцелі рыбакоў не пакідалі возера. Зжыліся з ім ад дзядоў і прадзедаў. Ведалі яго і дно, і берагі, і затокі, як кожную страку ў сваім лапці.

Сяньня лавіць забаронена.

Сяньня засталося шмат сірот, а ў сірот шмат сьлёз, а мала хлеба.

Нарач!

Сіняе, зялёнае, чорнае.

Нарач — дзесяткі лодак, каякоў, мод ўражэньняў, калекцыя фатаграфічных картачак, пяшчаная пляжа і зялёны шум меднага бору.

Нарач!

Гэта карміліца соцен, тысяч наднарачанскіх рыбакоў іх жонак, дзяцей.

Нарач, гэта кавалак чорнага хлеба і рызман на плячох наднарачанскага рыбака.

*Максім Танк.*

Пількаўшчына 1935 год.

## Пад вастрожнай сьцяной.

Сьцюжа, мароз, галалёдзіца,
сьліска, блішчыць тратуар.
Эх! часамі
так ня хочыцца
хаваць ад ветру твар.
Што, бабулька сьлёзы выцірае?
Можа плакаць маладым?
Эх! ў старыя
вочы слабыя
б'ецца ветрам гнаны дым.
Пад вастрогу муры шэрыя
падаянку прынясла,
толькі стража штось вастрожная
падаянкі
не ўзяла.
Слёзы градам
пакаціліся.
Сын яе быў маладым.
Гнаны ветрам непагодаю
моцна біўся ў вочы дым.
Быў адзін у сямьі работнікам
і кармільцам быў адзін,
працаваць
хадзіў на фабрыку
ў цэх ліцейны яе сын.
Дні насталі неспакойныя
Днём асеньнім, днём глухім,
змоўклі колы і трансмісыі,
з каміноў ня віўся дым.
Ў той дзень, помніць, ноччу цёмнаю
сына скулі, павялі...
знову думы неспакойныя
зашумелі, паплылі!
І ліліся сьлёзы
горкія
тварам зморшчаным старым,—
пэўна гнаны непагодаю
біўся моцна
ў вочы дым.

*Максім Танк*

Пількаўшчына 1935 г.

# МОЛАДЗЬ ПРАБУДЖАЕЦЦА.

Беларускія арганізацыі заўсёды з добрым вынікам змагаюцца з пашыраючайся дэмаралізацыяй. Яны патрафілі запоўніць тую духовую пустку, якую родзіць гаротнае, вясковае жыцьцё, — словам паказвалі вышэйшы сэнс існаваньня, ўзбуджвалі духовы ўздым. Праз прызму свайго роднага жыхар вёскі бачыў і разумеў вартасьці сусьветнае культуры. Але гэтая скарбніца веды замкнулася. Беларускія арганізацыі на вёсцы ліквідуюцца. Паўстае духовая пустка.

Гэты мамэнт хочуць выкарыстаць арганізацыі польскія, перадусім „Звёнзэк Млодэй Всі.“ Але вынікі працы гэтай арганізацыі вельмі ніклыя. Прычына гэтага ляжыць перадусім у пазапраграмовых мэтах арганізацыі. Тут на першы план высоўваецца палянізацыя, якая знаходзіцца ў цеснай сувязі з праграмай сацыяльнай. Мэта гэтая затушоўвае магчымасьць выразнага сфармулаваньня сацыяльнай праграмы, бо яна мусіла-б быць скіравана супроць абшарнікаў, пасярод каторых як раз найбольш палякоў.

Нацыянальнае і сацыяльнае пачуцьцё змушае моладзь да крытычных адносінаў да гэтае арганізацыі. І таму ў вёсках чыста беларускіх спробы іх заснаваньня спатыкаюцца няпрыхільна. А там, дзе моладзь, імкнучысь да культурнае дзейнасьці і запісваецца да гэткае арганізацыі, з энтузыязмам да яе не адносіцца: заўсёды паміж імі існуе прорва, выкліканая недаверрам.

Каб зьменшыць гэтую прорву, уводзіцца новая мэтода: „беларушчаньне“ арганізацыі. Да беларускага зьместу даецца польская аправа, або ў праграму польскай імпрэзы уплятаецца беларуская песьня, пьеска. Пры гэтым разьлічаецца на брак крытыцызму ў моладзі.

Такія думкі насоўваліся крытычнаму глядзельніку п'ескі, п. н.: „Вэсэле на віленшчызьне“, выстаўленай „Вейскім Унівэрсытэтам Людовым“ 19-II б. г. Кожны спадзяваўся, пабачыць нешта з жыцьця беларускай вёскі. Але вось як выглядае у сапраўднасьці зьмест гэтае пьесы.

Дзея адбываецца ў беларускай вясковай хаце. Гаспадары чакаюць сватоў да малодшай дачкі, каторая тымчасам гуляе недзе на забаве і прыходзіцца па яе пасылаць старшую сястру. Зьяўляюцца сваты, а па нейкім часе і маладая — Вінцуська. Калі гаспадар агледзіў каня, сват зачынае інтэрас. Ён падхваліва̀э маладога, бо-ж гэта не абы хто — гэта-ж сын солтыса. Бацька таргуецца аб пасаг з боку будучага зяця, а сват аб пасаг з боку маладой. Аканчальна абедзьве стораны годзяцца, і на знак згоды бьюць па далоням. Па заканьчэньні торгу сват прыносіць бутэльку барышу. Сцэна другая паказвае нам прыгатаваньне маладой да шлюбу. Дружкі, сьпяваючы „Не праўдзівая калінка“. строяць маладую, каторая сядзіць на дзяжы. Урываецца дружына маладога. Пасьля пачастунку і выпадку з хлапцом, каторы аблізаў таўкач, бацькі благаслаўляюць маладых. Маладая развітваецца з радзінаю пры гуках мазурскай песьні „Сёндай, сёндай на вуз кохане“. У трэцяй сцэне брат спатыкае вясельле з курыцай. Сядаюць за стол; сват, узьбіўшыся на зэдаль, правіць неўкую прамову, а пасьля зьбірае дары. На стол падаюць капусту, пірагі і іншыя патравы. Потым сьпяваюць песьні і сцэна канчаецца краковякам: „Ожэнілэм сето хвала Богу“. Сколькі тут праўды, і матываў беларускіх чытачы могуць судзіць з гэтай кароткай зацемкі.

Такія заручыны хутчэй прыпамінаюць сцэны на кірмашы, дзе прадаецца жывёліна. Гутаркі паміж сватамі зазвычай заўсёды вядуцца натта тонка, ветліва і дыпляматычна. Відаць што пьеса гэтая напісана панічамі, для якіх наш селянін ніжэйшая істота. Гэта ня ёсьць „вясельле на Віленшчызне“, а грубая пародыя яго.

Пьеса напісана калечанай польскай мовай з аканьнем і беларускімі канчаткамі, за выняткам песьняў чыста польскіх. У моладзі на сцэне прабівалася мастацкасьць. Але добрую ігру забівала штучнасьць гэтай п'есы, тая самая штучнасьць, якая ляжыць у аснове адносінаў гэтай моладзі да арганізацыі.

Пры тым самым „Вейскім Унівэрсытэце“ зарганізаваны хор, кіраўніцтва якога накідае моладзі спольшчаныя беларускія песьні, даводзячы, што „так бэндзе ладней“. Але моладзь дамагаецца, каб прыгожую беларускую песьню не калечылі перакладамі.

Пачынаньні моладзі шчырыя і безкампромісовыя. Яна даволі сьведамая, каб даць адпор усякім спробам нязгодным з яе нацыянальнымі і сацыяльнымі імкненьнямі.

*В. С-і.*

# У арганізацыі сіла.

Не той вінаваты, хто бье, але той, хто пазваляе сябе біць.

Каб зарадзіць гэтаму, трэба арганізавацца. Самы даступны спосаб арганізацыі у нашых умовах коопэрацыя.

Сяляне Галяндыі, Даніі, Чэхаславаччыны і іншых дзяржаваў не адчуваюць крызысу так балюча, як у тых дзяржавах, дзе коопэрацыя разьвіта слаба.

Кажуць, што Чэхаславаччына мае 14,7 мільёнаў насельніцтва, з гэтага ліку 5,102 тысячы утрымліваецца з зямлі. На кожнага земляроба прыпадае там 860 злотых гадавога грамадзкага даходу; на безпасярэднія падаткі ідзе ўсяго 3,7% ад гэтых 860 злотых. У нас аналёгію правясьці нельга, але апіраючыся на лічбах, якія ёсьць для ўсяе Польшчы, можна прыблізна сказаць. У Польшчы ёсьць 33,4 мільёнаў насельніцтва, з гэтых 23 мільёны прыпадае на вёску. На аднаго земляроба гадавы грамадзкі даход выносіць 50 зл. (На землях Зах. Беларусі ёсьць значна горш). Чаму так ёсьць? А вось чаму.

Чэхія мае 7,000 коопэратываў. У той час, калі у 2 разы з чымсь большая Польшча мае ўсяго 4,905. (У нас адносіны яшчэ горшыя). Чэхі маюць 121 коопэратыўную гарэльню (бровар), а ў нас манаполь ратуе пры помачы канцэсіяў на выраб гарэлкі, — абшарнікаў. Чэхі маюць 12 коопэратыўных крахмальняў, — а у нас даход з гэтай галіны цягне або абшарнік, або іншы буржуй. Чэхі маюць 63 коопэратыўныя млыны, пры якіх ёсьць пякарні, з якіх кожная абслугоўвае меньш-больш 32 вёскі, а у нас — ветрачкі круцяць грошы або кулаку, або жыду, або якому падпанку. А паравікі па мястэчках цягнуць грошы або абшарніку, або ў кішэнь розных буржуяў. Чэхі маюць 1430 коопэратыўных электроўняў, а у нас солі няма за што купіць, а дзе ўжо там да электрыкі. У Чэхасалаваччыне купец сьвіньнямі ці каровамі заробіц пятую часьць таго, што заплаціў селяніну, а у нас... ці паверыце, амаль два разы, бо аж 183%. Напрыклад, купіў карову, заплаціў 128 злотых. За правоз да Варшавы -52 зл., на бойні — 22,5 іншыя 13 зл. — разам 215,5 зл. расходу. Сам у Варшаве ўзяў 411 зл за мяса, 40 зл. за лой, кішкі, скуру, — разам 451 зл. Зарабіў 451 зл. — 215,5 чыстага 235,5 злотых.

Ці для цябе, чытач, ясна цяпер, чаму мы голыя? Калі ясна, то усьведамі сабе адно — ніхто нам не паможа — будзь пэўны. Будзем з галаду паміраць — ніхто хлеба кавалка ня кіне, — кожны будзе старацца сабе ад нас урваць. А калі ўжо і гэта усьведаміў, то помні: куды-б ты ня йшоў, што-б ты не рабіў, аб адным думай — адзін у полі не вая́к. Трэба арганізавацца. Чым хутчэй, тым лепей.

П. З.

## БАЙКА ПРА КЛІМА.

Жыў ды быў... (у кожнай байцы
гэтак пішуць і гавораць)
Клім ў малой дзіравай хатцы,
дзесь за горамі за морам.

Клім мужык, якіх німала,
вечна ён гараў і сеяў;
увесь век лазовым лапцем
Ён зямельку мерыць мерыў:

Гэта мне за пот гарачы, —
мерыў лапцям Клім зямельку —
і за голад, за жабрачы
і за цьвёрдую пасьцельку;

Вось аршын яшчэ за сьлёзы
і за гора паўаршына...
І да зломанай бярозы
Клім адмерыў і на сына.

Пядзяй Клім яшчэ адмерыў
за мазоль, мазоль крывавы,
за бізун, хамут адмерыў,
за жыцьцё, жыцьцё бяз славы.

Выйшлі ў поле воўк з мядзьведзем.
— Што-ж ты, — кажуць яны Кліму, —
ўсю забраць зямельку хочаш
і нас выкурыць бяз дыму ?—

— Досыць вы мяне лупілі,
лепш падзелім па заслугам, —
кажа Клім і лапцям мерыць,
ходзіць ўздоўж і ходзіць кругам.

Ўсё Клім вымярыў дакладна
Аж змарыўся, ў роце горка;
дабрадзеям выйшла толькі
з лапцяў Клімавых аборка.

Тут завылі воўк з мядзьведзем:
— Эй, мужык, дзялі іначай! -
І прышлося ім дубовай
ўсыпаць кашы у прыдачу.

І сягоньня ў новай хаце,
Ды не на курынай ножцы,
дзесь за морам, — эх, як ў байцы,—
Клім жыве з сынамі ў вёсцы.

23.II.36 г.

МАКСІМ ТАНК.

**Кожны сьведамы беларус, катораму залежыць на тым, каб была свая, беларуская незалежная прэса, павінен прысылаць падпіску, чытаць і пашыраць сваю беларускую газэту.**

# Парада нябошчыкаў.

У падзямельлях касьцёла на Дамініканскай вуліцы ў Вільні знойдзены цікавы магільнік. Поўныя скляпеньні трупаў, касьцякоў, чэрапоў.

Струхлелыя труны, шляхоцкая вопратка, шаблі, зброя.

Проста нейкая парада нябошчыкаў, былых фэодалаў, уладароў жыцьця і працы нашага селяніна, кіраўнікоў нашых земляў.

З пад гэтых склепеньняў, ад гэтых нябошчыкаў, са складак дарагой, але струхлелай вопраткі вее жудасьцяй 17 сталецьця.

Нядаўна адбылася прапаганда шляхоцкай ідеолёгіі на шпальтах віленскага абшарніцкага „Слова“ з дня 26 студзеня. Па свайму зьместу гэтая прапаганда, як наогул і кірунак гэтае газэты, выразна антыбеларуская, шавіністычныя і рэакцыйная.

Досыць нападаў прысьвечана там тоў польскай моладзі, якая не атручана чадам шавінізма, не аглядаецца на Гітлера, а шукае добрага сужыцьця з Беларускім Народам, якая прызнае за намі права на культурную і нацыянальную самастойнасьць. Імпэрыялізм шляхціца Заводзінскага плача над граніцамі гістарычнай Польшчы і ня можа пераносіць нават духу беларускага. Гэтым панам бяльмом на воку беларуская гімназія, ад якой амаль нічога і так не пазастала.

Нашыя землі паводле іх — гэта „край хлопув“, які павінен толькі гардзіцца сваею шляхтаю. О, падумаеш, якое для нас шчасьце! У кожным слове гэтай прапаганды выглядае прыгоннік, якому хочацца скруціць хлопа, уваскрасіць старыя формы.

А як заўзята даводзяць яны, што „земяньства“ мусіць быць атулена апекай Дзяржавы. Яны крычаць, што „земяньства“ — гэта асяродкі высокай заходняй культуры. Але „культура“ іх вядзе край да галіты і поўнага анальфабэтызму.

Вялікасьць, павагу і сілу Польскай Дзяржавы паны абшарнікі бачаць у тым, што трэба стварыць найлепшыя умовы для найбольшага ліку „богатых обыватэлі“: трэба адкінуць думку аб справядлівым падзеле маёнткаў, трэба зьняць з іх падаткі... адным словам, трэба вярнуць паншчыну, бо нават сяляне заліваюцца сьлязьмі, калі маёнтак ідзе на парцэляцыю.

— Бяз пана дрэнна, хто-ж нам паможа, як бяда здарыцца? — Нібы так скардзяцца сяляне пану абшарніку Ваньковічу.

Аднаго толькі забыліся дапісаць абшарнікі віленскага „Слова“, як „хлоп“ моцна „шчасьлівы“, калі панскі гайдук нагайкамі гоніць кабет і дзяцей, якія прышлі за грыбамі, або за ягадамі ў панскі лес, — страляе ў бедака, які прышоў назьбіраць гальля, каб абагрэць дзяцей у хаце.

Паны з „Слова“ з паважнаю мінай даводзяць, што зьдзічэньне і збядненьне сялянства адбываецца толькі там, дзе ўжо распораты шляхоцкія гнёзды.

Могуць яны цешыцца сваёй вялікасьцяй, забаўляцца тэорыямі „o przyszłość młodych ziemian“, могуць пяяць пахвалы сваёй мудрасьці, — аднаго ім ня стрымаць—поступу.

На арэну гісторыі нашага краю выходзіць сьвежая сялянская стыхія. Абшарнікі чуюць што ім прыдзецца ўступіць дарогу новым сілам, высокім ідэям, праўдзіваму дэмакратызму маладых народаў, у тым ліку і беларускаму. Усю іх ненавісьць да беларускасьці можна акрэсьліць славамі праф. Зьдзехоўскага: „Трепет малаго перед большим“. Гэты ідэолёг абшарнікаў сваё пачуцьце страху перад беларускай народнай стыхіяй акрэслівае славамі: не зачапайце маёнткаў, бо польскасьць патоне у заліваючай яе беларушчыне.*).

Адсюль мусіць хрысьціянскі ідэалізм пана прафэсара так чулы і спрыяючы багатаму абшарніку і так глухі да сялянскай беларускай бяды і гора.

Чытаючы „Слова“ здаецца, што гэта магнаты і шляхта паўсталі з касьцельных падзямельляў і хочуць павярнуць калясо гісторыі, каб адпіхнуць жыцьцё найменей на пару сталецьцяў назад.

*В М*

*) Od Petersburga do Leningradu, „Ze starego dworu“, стар. 7

## Нарачанская справа.

Некалькі гадоў назад увайшла ў жыцьцё рыбацкая устава, каторая рыбную гаспадарку возера Нарач робіць дзяржаўным прадпрыемствам. Сялянам забаронена лавіць рыбу ў возеры Нарач. Спаконвеку рыбалоўства станавіла галоўны даход сялян, іх дзядоў і прадзядоў. Дырэкцыя лясоў сама ўзялась за гаспадараваньне на возеры, пры чым затрудніла ўсяго 150 рыбакоў. Каля 5000 жыхароў асталося бяз працы і хлеба. Характэрна, што дагэтуль ніякага даходу Дырэкцыя з возера ня мела, а нават былі і дэфіцыты. Пасьля Дырэкцыя дазволіла сялянам лавіць рыбу з тым, што будуць дастаўляць яе Дырэкцыі па 66% рынкавай цаны.

Сяляне не згадзіліся на гэта. Выдаўшы апошнія грошы, справілі невад, налавілі рыбы і павезьлі у Вільню. Тут аднак рыбу ім сканфіскавалі. На знак пратэсту сяляне застрайкавалі, не дапускаючы Дырэкцыі карыстацца возерам. Сяляне цьверда бароняць свае правы, пры чым на асаблівую ўвагу зазлугоўвае салідарнасьць зазастрайкаваўшых.

# З Польшчы.

На паседжаньні Сойму, падчас дыскусыі над буджэтам Мін. В. Р. і О. Р., пасол Пахмарскі злажыў справаздачу з гэтага буджэту. Рэфэрэнт зазначыў, што ў працягу апошніх пяці гадоў буджэт гэты быў зьменшаны на 130 мільёнаў зл. У гэтым часе лік дзяцей у школьным веку ўзрос ад 4,300,000 да 5,400,000. Што год лік дзяцей школьнага веку узрастае, а школьны буджэт павялічыць нельга. Таму Польшчы пагражае рост анаьфабэтызму. Пасьля мін. В. Свентаслаўскі, у прамове аб стане пачаткавага школьніцтва, падкрэсьліў заслугі, паложаныя на полі асьветы, яго папярэднікаў. Далей сьцвердзіў, што спэцыяльнай апекай павінна быць аточана пачаткавае і прафэсьянальнае школьніцтва. Адносна беларускіх і украінскіх мін. сказаў, што вядзецца акцыя маючая на мэце выпрацаваньне агульных засадаў, на каторых можна былоб гэтыя школы абапёрці.

Падчас дыскусіі характэрным было выступленьне пасла Довнара, які уважае, што польскае школьніцтва гэта адна вялікая руіна. Каб уратаваць буджэт, абразалі фонд празначаны на школьніцтва. Буджэту не уратавалі, а школьніцтва зьнішчана.

— На становішча падсэкратара стану ў міністэрстве Почт і Тэлеграфу назначаны падпалкоўнік Тадэуш Аргасінскі.

— На становішча старшыні „Банку Польскага“ назначаны палкоўнік А. Коц.

— Візыты нямецкіх міністраў. У гэтым месяцы Польшчу адведаў міністр гітлероўскай Нямеччыны і старшыня акадэміі нямецкага права д-р Ганс Франк. 19 лютага прыехаў у Варшаву прускі прэм'ер Гэрман Гэрінг з жонкай. Злажыўшы афіцыяльную візыту прэм'еру Касьцялкоўскаму, міністр Гэрінг выехаў на 3 дні ў Белавежскую пушчу на паляваньне.

— У апошнія часы, што раз больш зарысоўваецца падзел паасобных палітычных партыяў і арганізацыяў на левыя і правыя. Пры гэтым здараюцца ідэолёгічныя конфлікты, якія даводзяць нават да расколаў. На гэткай плошчы паўстаў развал у Акадэміцкім Звёнзку Польскай Млодзежы Дэмократычнай. Больш лева настроеныя элемэнты адышлі ад арганізацыі пад назовам „З. П. М. Д. Левіца“. Яны пашлі на супрацоўніцтва а другімі левіцовымі акадэміцкімі арганізацыямі, як Легіон Млодых і Звёнзэк Незалежнай Млодзежы Соцыялістычнай.

На сабраньні гэтых трох арганізацыяў у Вільні 17.II б. г. было пастаноўлена выступаць супольна і імкнуцца каб гэтая кансалідацыя тварылася ў ва ўсей Польшчы, не толькі на унівэрсытэце, але і сярод работнікаў, з якімі гэтыя арганізацыі супрацоўнічаюць. Зв. Н. Мл. Соц. супрацоўнічае з клясавымі П. П.-саўскімі саюзамі, З. П. Мл. Д. са „Звёнзкам Звёнзкаў Заводовых“.

На гэтай самай ідэалогічнай плошчы паўстаў рязлом у З. З. З. Пры гэтым выступіў з арганізацыі пасол Гардэцкі з жменькай паплечнікаў. Сярод работнікаў ён сабе прыхільнікаў не знайшоў. Розьніца ідэолёгічная ў З. З. З. зарысавалася ўжо перад галасаваньнем да цяперашняга Сойму, калі прыхільнікі Марачэўскага і Шурыга хацелі збайкатаваць выбары, тымчасам староньнікі Гардэцкага, Пончка і Маліноўскага ўзялі ўдзел у галасаваньні і дасталі пасольскія мандаты.

# Усячыны.

— Пасажыры Карабля „Дуглас“ былі сьведкамі небывалага зьявішча на Індыйскім акіяне. Калі яны знаходзіліся на усход ад астравоў Праслін, неба пацямнела і раздаўся шум і сьвіст. Кругавід зьмяніўся ў полымя і разлегліся гукі, як арматныя выстралы. Па якіх трох мінутах усё сьціхла і праясьнілася. А ў водалі з мора выбухала пара. Гэта зьявішча было выклікана тым, што ў мора зваліўся аграмаднага разьмеру мэтэор, аб чым сьведчыла зварaная рыба на паверхні мора.

— 13 лютага б. г. над Баўгарыяй разшалелася мяцеліца пры адначасным марозе, каторы дахадзіў да 24°. Шмат людзей засыпана ў полі сьнегам і замёрзла. Цягнікі даўжэйшы час курсавалі з трудам. Телефоны шмат дзе пазрываны. У Стамбуле бура разьвярнула некалькі дамоў і затапіла некалькі параходаў.

— 12 ліпня 1935 г. Муссаліні сказаў: „Едзьце з думай і радасьцяй. Абісынія, каторую ідзіцё здабываць, будзе вашай. Скорэ пяць кантынэнтаў задрыжыць перад моцай фашызму. 6 лютага 1936 г. буду ў Аддіс-Абэбе, і дзе завешу трайкаляровую флягу Італіі на вярху царскіх палатаў“.

— Вучоныя аблічылі, што на зямлі існуе 3 тысячы розных языкоў каторымі цяперака гавораць. Спасярод эўрапэйскіх языкоў на сьвеце распаўсюджаны ангельскі язык, пасьля гішпаньскі, расейскі, нямецкі, францускі і італьянскі.

— Мазгі сярэдняга эўрапэйца — мужчыны важаць 1367 грамаў, а кабеты 1206 гр.; ангельскага паэты Бырона 1807 гр., а расейскага пісьменніка Тургенева 2012 гр. Але сіла розуму чалавека не залежыць спэцыяльна ад вагі мазгаў, бо нп. мазгі аднаго ідыёты (вар'ята) важылі аж 2850 гр.!

— У Каіры (Эгіпт) выйшла кніжка ў каторай даводзіцца што эгіпціяны ўжо на 700 гадоў перад Нар. Хрыст. мелі зносіны з Амэрыкай.

— У Каліфорніі пачалі ўжываць електрыкі да сушэньня італьянскіх гарэхаў. Перш сушылі іх на сонцы, але трывала гэта доўга, бо ад 5 да 15 дней, цяперака-ж у працягу двух дзён можна высушыць 8 тон (1 тонна=1,000 кілёграмаў) гарэхаў.

— У Польшчы сядзіць менш больш 46,000 людзей ў вастрогах. Стуль выходзе, што на 700 адзін грамадзянін знаходзіцца ў вастрозе, бо ўсіх жыхароў ёсьць больш 33 мільёнаў.

— У Берліне збудавана мікраскоп, каторы павялічывае 8,500 разоў.

— У Індыях індусы карову ўважаюць за сьвятою жывёлу і таму кожны паміраючы гіндус чуецца вельмі шчасьлівым, калі ў хвіліне сьмерці можа трымаць у руцэ хвост сьвятой каровы. Раз музулманы зьняважылі сьвятую карову, што выклікала крывавую барацьбу паміж гіндусамі і музулманам, так што было нават пара асоб забітых і некалькі раненых.

— Ватыкан (дзяржава прызнана папу) 711 жыхароў і прыгэтым 450 самаходаў, звычайна люксусовых. Выходзе тады што адзін самаход выпадае па 1,6 жыхара. гэта значы амаль два самаходы на кожныя тры асобы. Тутака Ватыкан б'е нават Амэрыку, дзе адзін самаход выпадае на 18 жыхароў.

## Забастоўка у Лідзе.

Аб жыцьці і заробках работнікаў фабрыкі калёшаў „Ардаль“ у Лідзе вашыя чытачы ўжо знаюць з корэспондэнцыі зьмешчанай у папярэднім № „Нашай Волі“.

30 сьнежня 720 работнікаў гэтае фабрыкі абвесьцілі забастоўку. Работнікі зажадалі падвышкі акордовых плат на 25%, а днёвак для мужчын 2 зл. 50 гр. — 3 зл., а для жанчын 1 зл. 50 гр. у дзень.

Перагаворы делегатаў работнікаў і прадстаўнікоў Саюзу з дырэкцыяй, як на мейсцы ў Лідзе, так і у Варшаве ў Міністэрстве вынікаў не далі. Дырэкцыя абвясьціла, што хто да 22 студзеня не распачне працы будзе звольнены. Дзеля таго, што ніхто з бастуючых работнікаў да працы не прыступіў, дырэкцыя фабрыку зачыніла і ўсіх 720 работнікаў звольніла. Работнікі ухвалілі да працы на умовах, дыктаваных дырэкцыяй, не прыступаць. Агэнты фабрыкі стараюцца нагаварыць рабочых да зрыву забастоўкі, але захады іх дарэмныя. Бастуючыя работнікі трымаюцца моцна і салідарна. Урадавыя дзейнікі датэтуль не робяць ніякіх шагоў, каб змусіць фабракантаў да ўступкі. Дзеля цяжкага матэрыяльнага стану бастуючых. Сэкр. Цэнтр. саюзу работн. хімічнае прамысловасьці зьвярнуўся з адозваю да ўсей рабочай клясы аб падтрыманьні бастуючых. Ахвяры просяць высылаць на адрас: Antoni Przewoźny, Lida, ul. Suwalska 147.

# Карэспандэнцыі.

В. АГАРОДНІКІ, Косаўскага павету. Да пачатку гэтага школьнага году ў нашай вёсцы быў вучыцель-беларус, які хоць вучыў па польску, але добра абыходзіўся з бацькамі і дзяцьмі. Але яго перавялі аж да Пазнаня.

Цяпер на яго мейсца прыехаў да нас пазнаняк паляк і пачаў заводзіць у школе „культурныя“ парадкі.

Перш-на-перш пачаў вучыць стаража, як замятаць. Дайшло да таго, што стораж, хоць бедны чалавек, не вытрымаў адукацыі і пакінуў службу. Затым пачаў вучыць дзяцей, як брахаць і кусаць жыда. Пасварыўся з усімі бацькамі і праз гэта мсьціцца на дзецях. Як толькі угледзіць, што у дзіцяці няма гузіка, дастае с кішэні цызорыка і паадразае ў вопратцы рэшту гузікаў, пры чым часта псуе адзежу. Цяпер ужо дайшло да таго, што дзеці прышываюць гузікі дротам. Займаецца гэты вучыцель у школе тым, што паказвае дзецям камбінацыі з трох пальцаў, называе іх сьвіньнямі. — Бо — кажа — вашы бацькі гатуюць для свіней у тым самым „пецу“, што й для сябе.

У сваей працы даходзіць гэты вучыцель проста аж да садызму. Маючы злосьць на дзяцей і іхніх бацькоў, кажа дзецям распрануцца, сам надзене кажух, паадчыняе ўсе вокны і пытае дзяцей ці ім добра. Быў выпадак, што солтыс не даў яму фурманку. За гэта вучыцель адводзіў сэрца, караючы дзяўчынку — дачку брата солтыса. Далёка ўжо чуваць пра яго „адукацыі“.

Пісалі мы просьбу аж у Варшаву, каб ад нас як хутчэй забралі такое „культуральнэ“ шчасьце, але дагэтуль адказу ня маем.

*Селянін.*

## Пісьмо да „Нашай Волі“.

В. ГІРДАЎКА. Наваградзкага пав. 7-II-1936 г. Хоць мы не знаёмыя, хоць я ня ведаю вас, але пішу да вас пісьмо і прашу з вамі пазнаёміцца і прагну трымаць з вамі сьціслую сувязь. Радасна бьецца сэрца маё, як „Наша Воля“ здабывае што раз болей новых чытачоў. І я прагну чытаць, і я прагну, каб усе мае сябры далёкія і блізкія, каб так сама чыталі, і каб у кожнай хаце беларускай знайшлася „Наша Воля“. Ідзі, „Наша Воля“, пад стрэхі Беларускага сялянства і скрозь развяселівай цяжкае жыцьце нашае старонкі.“

Я маю 17 гадоў, вучыўся ў польскай школе, але што з той навукі, калі мне не хацелась вучыцца па польску, — мяне цягнула ў родную беларускую школу, але яе ня было. Дзякуючы майму бацьку, я навучыўся чытаць дома; гэтай навукі ні на які скарб не прамяняю. Які я буду вясёлы, калі угледжу на руках сваіх „Нашу Волю“, і ніколі яе не забуду і буду яе пашыраць. А таксама і вас усіх, працаўнікоў „Нашае Волі“, віншую на шмат гадоў жыцьця. Яшчэ прашу прыслаць мне пробны нумар „Нашай Волі“ і пераказ, каторым пашлю грошы. Веру, што мае словы паложаныя на вас збудуцца. Будзьце здаровы.

Ваш прыяцель *Уладзік С.*

(працяг гл. на стар. 6).

